АЛЬБЭРТ ПАЎЛОВІЧ.

# ВАСІЛЬКІ.

Драма з сучаснага жыцьця ў 5 актах.






ВІЛЬНЯ 1919.
Друкарня „Промень".

АЛЬБЭРТ ПАЎЛОВІЧ.



# ВАСІЛЬКІ.

Драма з сучаснага жыцьця у 5 актах.










ВІЛЬНЯ — 1919.
Друкарня „Промень".

## АСОБЫ.

**АНДРЭЙ**—малады муж, 32 год, прыгожы мужчына добрага мягкага сэрца.

**ПАРАСКА**—яго жонка, 58 год, згрыбелая, хваравітая баба, чэрствая, вельмі неспакойная і капрысная.

**АГНЕША**—пакаёўка, 17 гадоў, харошая дзяўчына, рухавая і дабрадушная.

**СТАРАЯ**—Прачка (мыцьцёха).

**СЯСТРА** Андрэя, родная,—21 год, у гасьцёх.

**БАБУЛЯ** і **ДЗЕД** Агнешы.

---

## АКТ ПЕРШЫ.

Рэч дзéецца ў інтэлігэнтнай мяшчанскай сям'і. Сьвéтлы пакой чыста прыбраны. У пакоі два вакны ўстаўлены квéткамі. На процілéжнай ад вакон старанé стаіць ложак, на ім ляжыць хворая. На століку гадзіннік. Хворая сьпіць. Муж уваходзе ў пакой асьцярожна, на пальчыках.

### ЗЬЯВА I.

АНДРЭЙ — АГНЕША — СТАРАЯ — ПАРАСКА (крэпка сьпіць).

АНДРЭЙ.

Ну, дзякуй Богу, сьпіць спакойна,
А каб з гадзіну яшчэ так,
Усё-б лягчэй, чым больш спачнула-б,
І на здароўі быў-бы знак.

СТАРАЯ (прыглядаючыся да хворае).

Ах страшна... зьмéжаныя вочы
Уваліўшысь глыбака у скронь,
Зжаўцéўшы твар, упаўшы грудзі,
Ганéбна высахша далонь...

АНДРЭЙ (з жалем).

Няшчасьце нас дваіх спаткала —
Няма жыцьця... крыжовы лёс...

(у роспачы)

За што нас, Бог, Ты так караеш,
За што я толькі перанёс?

Няма атхланьня, з сіл пазбыўся...
Я трачу розум... нельга жыць!..
(сьціхаючы)
І моладасьць мая ўся згасьне,
Яé я змушан загубіць
Бяз ясных хвіль у злой нядолі...
Сябé... сябé... найбольш віню.
(змацняючы дух)
Ды, даўшы слова быць ёй вéрным,
Яго ніколі не зьмяню.

ПАРАСКА (прачыхаецца).

Ох... мнé нядобра.. як мнé слаба...
Хаця-бы Божы дзéнь прыждаць.
Ці прыдзе доктар?
(зварочаваецца да мужа)
...Дых займае...
Цябè я мушу пажагнаць.
Ох, Божа мой... (змоўкла).

АНДРЭЙ (кліча Агнéшу, Старая памыкаецца бéгчы).

...Агнéша!

АГНЕША (аказавлецца за сцэнай).

...Чую!

АНДРЭЙ.

Бяжы барджджэй, хутчэй ідзі;
Якога доктара застанеш,
То без адкладу прывядзі.

## ЗЬЯВА II.

ТЫЯ-Ж і АГНЕША (уваходзе, ускідавае хустку і выходзе).

АНДРЭЙ (ля дзьвярэй).

Калі-б спытаў — скажы, што пільна...
Табé ж ня бояэна, што ноч?
(хворая праз сон кашляе).

АГНЕША (завіхаючыся).
Ну, што-ж зрабіць, як трэба—мушу...
Іду ..

АНДРЭЙ.
...Шчасьліва!

АГНЕША.
...Божа мой!
Што-ж гэта будзе... во няшчасьце (выходзе).

## ЗЬЯВА III.

ТЫЯ-Ж без АГНЕШЫ.

СТАРАЯ.
Лякарства-ж пан даўно даваў?

АНДРЭЙ (бяз толку перастаўляе рэчы, пасьля апомніўшыся падае хворай у лыжцы лякарства).
Параска, спраўды выпі троху,
Грудзе́й каб кашаль ня зрываў.

СТАРАЯ (да Андрэя сьціха).
Уто бяда... напасьць якая,
У дактарох ня знойдзеш лад
(абярнуўшыся да хворае)
То-ж страх! на Божаей пасьце́лі
Ужо дзевяты тыдзень ўрад
(адганяе мух)
Пяройдзе час... Бог дасьць здароўе...
Узноў паправіцца... дарма!
(Адходзячы бліжэй да Андрэя, усьце́шліва)
Хваробу зможа, бо здае́цца
Капы гадоў яшчэ няма,
Во толькі каб.. а то бывае...
Што дактары не пападуць
На сьле́д хваробы і праз гэта
У прышлы сьве́т яны зьвядуць.

АНДРЭЙ.

Ну, ну, ужо ад рэчы кажаш..
Нашто напе́рад забягаць,
Яшчэ Бог ласкаў, а што будзе
Ня нам аб тым судзіў Ен знаць.

СТАРАЯ.

Крый Божа злога... а няхай іх...
Ды так трапляецца... ці-ж не?
То той, то сёй... стары ўмірае,
Дарогу моладзі дае́.
Ні пе́ршы, пан, такі бяздольны
І ні апошні будзеш, пан,

АНДРЭЙ (з прытугі хавае галаву ў далоні).

Калі памрэ... знаць Божа воля...
Няма што плакаць, даліпан!

АНДРЭЙ (з гне́вам).

Пакінь плясьці... мяўчы старая!
Ні час, ні ме́йсца, ні пара!
Ня труць мне́ сэрца... ўласных думак
Што дзе́нь, то новая гара.

СТАРАЯ (зьдзіўлена).

Ці пан загнѐзаўся?.. даруй мне́,
Я не хаце́ла скрыўдзіць вас;
Кажу па праўдзе, як бывае...
А дзе-ткі доктар доўгі час?

АНДРЭЙ (заглядавае ў вакно з нецярпе́ньнем).

Тсс... дзякуй Богу.. во і доктар.
(зварочваецца да старое).
Ідзі у се́нцах пасьвяці.
(Старая выходзе з агнём. Андрэй — сярдзіта).
Ну, завіхайся ж хутчэй трохі,
Ен, вунь, на ганку!.. ну-ж, ляці!

ПАРАСКА (прачнуўшыся ад болю).

Што тутка сталася з пасьпе́хам?..
Ну й доўга-ж цягнецца мне́ ноч..
Такая боль (паказвае) во тут у сэрцы,
Што не змагла нат зьме́жыць воч.
Чакаю ўсё, ці скора доктар,
Калі ён зьявіцца да нас...

АНДРЭЙ.

А во ўжо йдзе́... ты-ж, дзякуй Богу,
Такі ўздрамнула добры час;
І так спакойна, ціха спала,
Аж радасна было глядзе́ць.
(перасьцерагаючы).
Ну будзь спакойна... ня смуціся
Ужо... во... во... (ідзе́ на спатканьне доктара)
ужо ідзе́ць.

## ЗЬЯВА IV.

Андрэй, Параска, (уваходзяць) Доктар і Агне́шка.

ДОКТАР.

Так! (як-бы змарыўшыся) добрай ночы!

АНДРЭЙ.

...Просім пана!

ДОКТАР (зьняўшы паліто, аддае́ яго Агне́шы; падходзе да хворае).

Што з вамі сталася..
(зварочваючыся да Андрэя).
..даўно?

АНДРЭЙ (прыпамінаючы).

А ўжо здае́цца... я ня помню...
Мо' з год...

ДОКТАР.

Прымкніце вы вакно,
Бо цягне холад...
Прашу (да хворае) се́сьці.

ПАРАСКА (перапыняе).

Каля Пра... чы... стай будзе... год,
Як не магу... устаць з пась... це́лі...
І чэзну... мусіць ад сухот.

ДОКТАР (абслухаваючы грудзі).

Ага, вось, так! а мне́ скажэце
З кім-колеч раіліся вы?

АНДРЭЙ (ківае галавой).

А быў Палонскі, доктар Поляк...

ДОКТАР (перапыняе і бярэ за руку).

А што казалі вам яны?
(глядзіць на гадзіннік).
(П а у з а)
(бярэцца за трубку і прыклаўшы кажа).
Дышэце... так... глыбе́й... чуць трохі (робе грымасу).
Чуць павярне́цеся... во так...
(папраўляючы)
На бок... дышэце... (ківае галавой) ну, прысядзьце.

ПАРАСКА (лѐдзь падымаючыся, охкае).

ДОКТАР (паглядаючы ў вочы і падтрымліваючы за пле́чы).

...Цяпе́р во, чуецеся як?

ПАРАСКА.

Мне́ тут во... (паказвае на грудзі). цяжка... сіл ня маю...
Дубе́юць рукі...

ДОКТАР (апускаючы хворую да ляжачага пала-

жэньня і не знаходзячы лыжачкі, просіць Агнéшу, ківаючы да яé).

...Дзе-жаж мнé?...

АГНЕША (згадваючы думкі).

А! пэўне лыжачку пан хочаш?
Во зараз, (выбягаючы) ёсьць тут у мянé.

ДОКТАР (адходзе, штось шэпча Андрэю, ківаючы галавой і махаючы рукамі).

Дарма, (бярэ пульс) ня страшна, у цéле [спала,
сэрца слабае відаць.

## ЗЬЯВА V.

Тыя-ж і Старая.

(Агнéша, варочаючыся, нясé лыжачку, Старая уходзе за ёй сьцікаўленая).

ДОКТАР (прыймае лыжку, да хворае).

Ну ды пакуль душа жывая
Мая павіннасьць ратаваць.
(Аглядае з лыжачкай).
Раскрый губы... так...

АГНЕША (у паўголаса).

...Мой Божа!

СТАРАЯ (да Агнèшы).

Ці доўга будзе дакучаць?

АГНЕША.

Я вам-бы радзіла маўчаць.
(Агнéша выходзе).



## ЗЬЯВА VI.

Тыя-ж без Агнёшы.

ДОКТАР (да Андрэя, адышоўшыся да стала, каб записаць рацэпту. Гукаюць стоячы).

Ну што-ж, скрываць ад вас ня буду...
Вы кажаце, што больш, як год?
Надзеі мала... Сяньні трудна
Спыніць хваробы шпаркі ход.
Яшчэ ня больш дзьве-тры нядзел
Сяк так працягне, — больш ані,
Па тахту сэрца спазнаць лёгка,
Што каратае свае дні,
(зварочаецца з увагай).
І вы павінны з тым згадзіцца,

АНДРЭИ.

Мой пане доктар... няўжо-ж нас...

ДОКТАР (паціскаючы плячмі).

Ну што-ж рабіць — знаць Божа воля...
Разстаньня жджэце кожны час.
Вам дактары больш непатрэбны,
Тут ня выдаткі, а сам Бог,
Адзін Ен толькі перад сьмерцю
У апошняй хвілі-бы памог...
Ну дай-жа Божа!..
(садзіцца пісаць рацэпту).
...Вам і хворай...
А у ёй калі-б знайшлі хоць чуць
Якой адмены, дык завеце,
Мо' будзе к лепшаму хінуць;
Цяпер, вы бачыце, хвароба
Дайшла да пункту, да пары...
Калі ўжо крызіс пераможа,
То мусіць ўніз ісьці з гары.

АНДРЭЙ (абпёрся ззаду на спінку крэсла).

О, дай-жа ж, Божа, бачыць шчасьце!..
Вам шчыра дзякую... (глянуўшы на хворую) засьне?

ДОКТАР (нéшта задумаваецца і не адразу адказавае)
Хай сьпіць, паправіцца, — Бог — бацька!
(глéдзячы на галзіннік).
І ня будзéце, хай спачнé!
Каб сіл набраць, а там паглядзім...
Дасьць Бог паправу...
(мéўся аддаць Андрэю рацэпту, але яшчэ штось дапісавае).
...з кожным днём.
(устаў, падаé Андрэю).
Кампрэс кладзéце ў дзéнь тры разы,
Давайце кропель з малаком,
Два парашкі у дзéнь і вéчар
(зварочаваючыся да Старое).
Расол давайце... млéка піць
Праз нéйкі час... (адходзячы да дзьвярэй)
...ну давідзеньня!..
(Андрэй трымае на гатове грошы і ў парозе пры разьвітаньні аддаé)
Павінна гэта пасабіць.
(Усé выходзяць з пакою за доктарам).
(Пауза).

## ЗЬЯВА VII.

Параска адна, пасьля Агнéша і Андрэй.

ПАРАСКА (быццам праз сон).
Ах, Божа мой, спакою хвілю
Зьмяніў блудлівы прыкры сон.
Чуць вочы зьмéжу — страхі сьняцца,
А ў галавé і шум і звон.
За што, за што цярплю, мой Божа!
АГНЕША (уваходзіць).
Мо' пані звала? (паглядае на гадзіньнік).
Вось пара даваць лякарства.. Зараз . Зараз...
(бярэ са століка лыжачку і, адліўшы роўна 10 капель, падаé хворай.

Каб памагло хоць... з плеч гара...
(Агнеша ціхутанька выходзе)
(Пауза).

АНДРЭЙ (заходзіць у пакой, ня скора).

Чаму-ж ня сьпіш, мая нябога?
Мо' кашаль зноў заснуць ня даў?
Дасьць Бог папраўішся, мне доктар
Упэўніў моцна і сказаў...

ПАРАСКА (падняўшыся чуць).

Ці верыце, як мне абрыдла,
Так млосна, цяжка у грудзях...
Нішто ніяк не памагае..
Аб сьмерці і успомніць страх.
Спакой... спакой... сьвяты мне трэба!
Каб быў чуваць і мухі лёт,
Каб былі мысьлі не заняты,
І сон каб плыў без перашкод.
На ўсё глядзела каб.. (па раздуме) хто-ж
[можа?
Глядзець без зайздрасьці і болі
На гэты сьвет, дзе люд вясёлы
Паўнюткі ўцех жыцьця і долі,
Гдзе сонца блеск так песьціць душу,
Павевы ветру поўняць грудзь,
Блакіты неба ў яснай далі..
Ах... сьлёзы вочы мне пякуць.
(Упала ў лёгкую задуму).
Даўно ня сплю, ня сьпіцца неяк...
Дзе дзеўся той жаданы сон?..
А так здаецца-бы заснула...

АНДРЭЙ (спагадліва).

Мо' шкодзіць сонца блеск з вакон?

ПАРАСКА.

Сказаць па праўдзе, за час гэты
І сьвет і вокны надаелі...

Гара лякарства, а паправы
Я чую мала... у пасьцелі
(голас падае)
Жыцьцё сваё так каратаю,
Што будзе далей не згадаю...
А йзноў, Андрэй... о мой Андрэйка,
Хто-ж зможа нас двух разлучыць?
Крый Бог чаго... (з жалем) у час раз-
[станьня,
Ці-ж ты павінен адзін жыць!?.
За мной ты цьвіў і красаваўся
І моладасьці водар сьвежы
Яшчэ і сяньні пахне міла,
Як падбярозка на узьмежы...
Ах Божа мой! за што караеш?!

## ЗЬЯВА VIII.

Тыя-ж і Агнеша (уваходзіць).

ПАРАСКА.

А хто тут?.. Неша? ты? ка мне?
Прысядзь крыху..: пабудзь са мною
І прытуліся да мяне... (абнімае)
Прынамсі во аж глянуць міла,
(разглядаючы Нешу)
Як кветка майская — наўзьдзіў
Ражовы твар (бярэ пад бараду)
...Каса з істужкай...
(з жалем).
Няроўна шчасьце Бог дзяліў!..
(Агнеша адходзіць і папраўляе фіранкі на вокнах).
Вось... з кута ў кут з вясёлай мінай,
Быць тая ластаўка снуе.
Шчасьлівы век!.. бяз дум, бяз смутку,
Нішто спакою ня труе...
(П а ў з а).
Во ні была-бы то дзяўчына:
На йстужцы кветка ў галаве

Во васілёк... ого! знак згоды...
Прыемна моладасьць плыве́!
А мне́ адно... адно пужае:
Што дзе́нь я сьню такія сны,
Што, як прачхнуся, мне́ брак дыху;
Такія, цяжкія яны...
(змагае слабасьць).
Чуць трохі знураныя вочы
Пачну зьмяжаць на лёгкі сон,
У тэй-жа хвілі, у пераме́жку,
Як матылёў з усіх старон
Ляціць рой думак...

АНДРЭЙ (ідучы да дзьвярэй, ня зразу).
Яно і спраўды здэцца мне́,
Праз то, што нэ вы не ўпарадку,
Ты адчуваеш боль у сьне́.
Усё пяройдзе... трэба ве́рыць,
Апроч людзе́й паможа Бог.

ПАРАСКА (да Агне́шы).
Мне́ страшна, Не́шачка, ня знаю...
Ня ве́ру, доктар кэб памог.

АГНЕША (папраўляе падушку хворай і наважаваецца выйсьці).

ПАРАСКА.
Дзіця, пабудзь яшчэ са мною,
Табе́ шмат стала непакою,
Бядачка, шчыра і з ахвотай
Адна спраўляешся з работай...
За то, калі дасьць Бог здароўе,
Тва́е я крыўды не схачу.
За дабрату, спагаднасьць, шчырасьць
Табе́ з падзякай адплачу (цалуе ў скронь).

ЗАВЕСА.

# АКТ ДРУГІ.

Гасьцінны пакой у доме Андрэя. На вокнах вазоны з кветкамі. Двое дзьвярэй: адны напроці сьцяны з вокнамі, выходзяць у пакой з І акту, другія, у сярэдняй кулісе сцэны, выходзяць у іншы пакой. Патрэбная да гасьціннага пакою мэбля.

## ЗЬЯВА І.

АГНЕША — адна.

АГНЕША (паліваючы вазоны).

Ужо дзякуй Богу... пасьпела зарана...
Усюды памыта, прыбрана
І глянуць прыемна, як косачкі сонца
Пярэсьцяць, ліюцца ў ваконца,
І блескам злацістым, прыбраўшы лісточкі,
Усе асьвятляюць куточкі;
А там (паказвае на кут), дзякуй Богу, [ў парадку, прыгожа,
Што ўсякі зьдзівіцца на'т можа.
(ходзіць, нагінаецца, папраўляе).
Нямашака пылу, няма павучыньня,
Бо вока мае не праміне,
А сэрцам спрыючым, пры добрай спагадзе,
Зробіш шмат больш у здагадзе,
З ахротаю мілай, аб' сілы ставалі,
Ніхто не пярэча ніколі...
І гэта найлепей... (схамянуўшыся)
А што-ж я?.. (прабуе зямлю)

Здаéцца усохлі даволі.
(прыносе з кухні ваду)
У роскашы гэтай, у ціхім спакоі
Штось сэрцайка смуткам так кроё!
І днём, як уночы, сьціпна, ні згуку,
Ні спрэчкі, ні гнéву, ні стуку...
Парадак найлéпшы і без загаду
Ідзé ўсё да толку і ладу (глядзіць у вакно).
Пагода спрыяе... нéба бяз хмары!..
Душу чаму ж смуцяць так мары?
Чаму, як той вéтрык, зьнячэўку крадуцца
І ў думках аж роем снуюцца...
Што так трывожа мяне.. (выцірае сьлёзы
[Андрэй падглядае)
Але годзе... (пераліўшы крыху вады)
А, Божухна мілы!.. А мо' не пашкодзе,
І гэта-ж во з самай крынічкі
Прынесла сьвéжай і чыстай вадзічкі.
Яшчэ пакуль днéе — паны не усталі —
Абмыю лісточкі, каб лéпш выглядалі,
Абрызгаю трохі чыстай вадою,
Нібы то раньняй лёгкай расою (супыні-
[лась трохі);
Гожыя квéткі: рожа (бярэ да носу), во
[сьлёзкі,
Во пантофэлькі Матачкі Боскай,
Гэта леандра... а гэта здаéцца (думае)...
Ня ўспомню, міртай, ці пальмай завéцца.
Усё панскія квéткі, цьвітуць на выгодзе,
Не так як званочкі, ці мак у гародзе
Згушчаны зéльлем, зьвіты хвасоляй:
Іх жыцьце роўна з маёю доляй!

(П а ў з а. З жалем. Андрэй блізка ля дзьвярэй слухае).

Доля сіроты бяздомнай, самотнай,
Дзяўчыны бéднай, служкі гаротнай.
Росквіт жыцьця майго з лéпшаю сілай

Родная вёска не прытуліла.
Сяньні во тут я... мнé сумна адной
Паміж чужымі, пад стрэхай чужой
Быць з поля кветка вéтрам здалёку
Падхоплена сілай жыцьця знінароку
(апусьціўшы у тузе рукі плача ціхэнька).
Са мной, як і я тут, разам ў бяздолі
Жывé і бядуе аб шчасьці і волі
Мой васілёчак... бéдны ён згіне
Ад чаду і затхі, ад пару з начыньня...
Не ўберагчыся! шкода расьлінкі;
Яна нè шлé с поля, з лугоў успамінкі,
Яна мянé с хаткай убогай яднае,
Васілёк гэты — кветка малая...
Не.. такі трэба, хоць дзе у куточак
Схаваці ў пакоі між руж васілёчак,
Хай утуліўшысь весьняк гэты мілы
Хоць кроплю прыдбае росту і сілы...
А мо' ня ўбачуць... каму з іх прысьпéла
Канéчна даглéдзіць... Барждж эй за дзéла!
(выходзе, выціраючы хвартухом вочы).

## ЗЬЯВА II.

АНДРЭЙ—АДЗІН.

АНДРЭЙ (увахадзіць, абглядаючы пакой).
Хораша, чыста, аж глянуці міла!
Зраньня ўжо Нéшы рука пахадзіла.
Гдзе кінеш вокам—міла дый годзе!.. (паціскаючы плячыма)
Як пасьпявае, гдзе час той знаходзе?!.
Ох, яé рукі спрытны і зьвінны;
Усё пасьпявае у поўгадзіны;
Дробную рэч нат падніме, паправе,
Хвількі і тэй не сатрэ, не забаве,
Навет ня сядзе на момéнт ніколі
Шкода! такой Бог ня даў лепшай долі.
(заахвочываючыся думкай).

Ну чым, жа ня пекнасьць? зьвінна, як
мушка
Мілэ і звонка шчабёчэ, як птушка,
Крашчэй чым месяц срэбраны уночы,
Як зоркі ў пагоду гарэць яé вочы,
Пагляд надта шчыры, прыязны і мілы...
Сколькі ў грудзях яé шчасьця і сілы...
(схамянуўшыся).
Грэх можа мнé на яé углядацца,
Што-ж... (аглядаючыся)
...калі нельга высьпярагацца...
(сьмялéй)
Чым-жа я вінен?.. што жартымо, строю?
Што-ж тут благога—не... гэта пустое...
Трэба-ж быць горш ад дзіцяці малога,
Каб ня зьдзівіцца з парад у такога,
Трэба быць подлым, цаны ня знаць працы;
Тут лепш у пакоях, як дзе у палацы.
Шчырасьць Агнéшы варта адзнаку.
Чым адплачу я?.. Што дам на падзяку?
(з зайздрасьцьцю)
Нéкаму-ж дасьць Бог пад бéдную стрэху
Скарб ані жонку, праўдзівую ўцéху,
Добрае сэрца, моладасьць, сілу...
А мнé у пакоі... развалу... магілу...
(адходзе, махнуўшы рукой і млява
апускаецца на поручань крэсла).
Жыцьцё маё гіне; яно замярзае;
Так цяжка, так горка жывёцца...
І жыць не хацеў-бы здаéцца...
Во дзе нядоля мянé напаткала;
Шчасьця ня знаць мнé, яно запрапала...
(зрываецца з мéйсца).
О Божа Адзіны! ні сну, ні спакою
Каторую ночку—ці доўга йшчэ так...
То éнкі, то стогны, то плач душу крое,
А тут няўгодзіш хворай ніяк:
Злуé, вымышляе... ну, чым пасаблю я?

Апошняе трачу; што дзе́нь дактары...
За што Бог скараў так, за што крыж знашу я
Відаць мушу згінуць зусім без пары!
(па раздумцы)
Ох, шкода дзён сьве́тлых, што згасьлі у бяскраі,
Як сон мімалётны, без сьле́ду прайшлі...
Ну хоць-бы зда́ецца, каб памяць якая,
Каб сэрца самле́ла, уздрыгнула-б калі
Ані!.. толькі мукі, ды толькі нязгоды
Нізводна пануюць, як грэх каля цьмы...
Во здэцца ў жыцьці бы і ме́ў асалоды,
Каб так дзе на волі, спаткаліся мы..
А з кім?. я ня знаю... у прасторы на волі
Калі-б мо ды Не́ша?
(апамятаючыся)
Божа, што гэта?!
Чаму я успомніў... ня думаў ніколі,
Хоць праўда, што Не́ша краса ўсяго сьве́та.
Ох... колькі-б аддаў я, каб мог быць шчасьлівы,
Каб моладасьць дарма ня згасла мая...
Зрэштай, як Бог ёсьць на не́бе праўдзівы,
Я жонку шкадую.·.—люблю яе́ я!
(Андрэй падходзе да дзьвярэй і спатыкаецца ля парогу з Агне́шай)

## ЗЬЯВА III.

АНДРЕЙ — АГНЕША.

АГНЕША, (з вазонам у руках).

Перапрашаю...

АНДРЭЙ.

Дарма, ня пужайся...
(Агне́ша хавае кве́тку)



АНДРЕЙ (вясёла).

Што ў руцэ маеш? кажы, ня стыдайся...
(П А У З А)
Бачу я, Нéша, ты стала нудзіцца...

АГНЕША (нясьмéла).

Не, мой паночку, магу пабажыцца,
Мнé тут і добра, спакойна даволі.

АНДРЭЙ.

Так?!. дык чаму-ж тваé думкі на полі?
Па кветцы схаванай, падглéдзіў я тугу,
Па пекных абшарах квяцістага лугу
Ты нудзішся, Нéша,—жаль роднае вёскі,
Жаль гоману лéсу і шэпту бярозкі;
Даўно ты ня чула жальлівае пéсьні
Пры кроснах матулькі у вéчар прадвéсьні...
Праўда? згадаў я? Ня бойся-жа згрозы...
(спагадліва)
Сяньні раз трэйчы падглéдзіў я сьлёзы...
(Агнéша скрывае кветку).
Нéшачка, што ты пакінь-жа, пустое!
Лéпш васілёк во... эх, Бог жа з табою
(памыкаецца браць з рук, дагаджаючы)
Мілая кветка, адкуль яé ўзяла?
Няўжо ў нас сіротку ты ўзгадавала?
Не ў каласочках жыта на полі,
А так, самотны вырас бяз долі?
Што-ж не лякайся... нясі у пакоі..
Я не пярэчу.. няхай во малое
Тут падрастае, тут сонца ня пале...
Дай... (узяў з рук і йдзé да вакна)

АГНЕША (ідучы блізка).

Ці, мой пане, няўжо ўпадабалі?

АНДРЭЙ

Што? васілёчак? а што-ж ёсьць на сьвèце
Болей мілéйшага?.. помню, як дзéці
З вёскі пасыпяць у школу мяжою,

Як-жа іх радасна рвалі рукою...
Помню, я сам колісь быў ахвочы...
Міла глядзе́ць, як лазурныя вочы
Ве́льмі прыязна глядзяць сярод жыта.
Сколькі ўспамінаў у ве́тцы тэй скрыта.
(з жалям)
Ве́е прыемна і познай парой
Мінулае шчасьце душы маладой...

АГНЕША.

Праўда мой пане! (цалуе васілёк). . ня-
бошчыца матка
Помню—тагды йшчэ была я дзіцятка,
Возьме на рукі, пе́сьціць, сьпявае
І васілёк у касу уплятае...
Помню, ідзе́ спрацаваная з жніва,
Ле́дзь ногі цягне, сама ле́дзь жыва,—
Не, ўсё ж за кве́ткай нагне́цца, ня міне,
Вяночак дарогай сплятае дзяўчыне...
Сьпіш,—а бывала — чуць сьве́т, у няд-
зе́льку
Кве́ткамі маці ўбірае пасьце́льку;
А раз нядужая, страціўшы сілу,
Дзе́сь на узьме́жы знайшла і магілу,
Бе́дная ўпала бяз сіл на каме́ні,
Кве́так трымаючы горстку у жме́ні
(хусткай закрыла набе́гшыя сьлязьмі вочы).

АНДРЭЙ (спагадна).

Годзе... ці ж варта?.. пакінь успаміны!..
Бачу праўдзівае сэрца дзяўчыны,
Добрае сэрца!.. якога ня ўтаю,
Не спатыкаў я ў тых, каго знаю...
(Агнеша робе знак сумле́ньня).
Не́шачка! праўда... і мне́ не здае́цца

АГНЕША (недаве́рна з абразай).

Эх, хіба пан з мяне́ бе́днай сьмяе́цца
І з тых пачуцьцяў што сэрца хавае...
Жаль-жа, што пан іх глыбі ня знае.

АНДРЭЙ.

Жадаў-бы я знаць іх, хто-ж згадаваць стане:
Тайны дзявочы змушаюць к пашане,
І дзеля тога даруй мнé, нябога,
Часам калі што падумаў за многа
(зьмяняючы тэму).
Глянь, мая кветка, (схамянуўшыся, што слова сарвалася).
...тут у куточку
Будзе прасторна твайму васілёчку.
(Андрэй ставіць вазон на вакно).

АГНЕША.

Як я шчасьліва... о, тут выгода!
Васілёк гэты—жыцьцю асалода...
За панску ласку я удзячна, Бог сьведка,
(зрывае васілёк).
Знакам хай служыць родная кветка...
(прышпіляе Андрэю да боку).

АНДРЕЭИ (зьдзіўлены і трацячы аднавагу бярэ Агнешу за руку).

Нéша, за што-ж мнé, пабойся ты Бога,
Гэткай падзякі ці не замнога;
Хіба за што тут?
(згодна)
няхай падрастае,
Хай на усьцéху расьцé, расквітае
(падняўшы ражок жакéта, цалуе кветку).
Міла мнé кветка... за ўсе сваё жыцьце
Бачыў я толькі на мéжах у жыце
Між каласочкаў сьпéлай збажыны,
Але ня тут во... (паказвае на грудзі).
...ня з ручак дзяўчыны!..

АГНЕША (зачырванéўшыся).

Э. пакінь, пане...

АНДРЭЙ.

О, лёгка сказаці,
Але пачуцьця нязмога скрываці,
Тое што ў сэрцы ве́тка ўзбудзіла
І быццам іскрай душу авсьвятліла.
Шчасьця нязнаннага водблеск сляплівы.
Мною пануе... (з жыцьцём).
я сяньні шчасьлівы!
Пе́ршы раз у жыцьці!

АГНЕША.

Ці праўда, мой пане?

АНДРЭЙ.

Хай мне́ ўсё добра па праўдзе тэй станеі
Пе́ршы раз сэрца мне́ штось скаланула,
Чуласьць бязвольна душу агарнула;
Мле́юць мне́ рукі.

АГНЕША.

Што-ж пану стала?
Можа-б прысе́лі... (Андрэй асоваецца на яе́ рукі).

Ах, Божая хвала!
Пане, што з вамі? спытаць можа паню,
Знаць якіх кропель даць к ратаваньню?
Цёплай вадзіцы мо?.. (шчыра прыхіляючы да грудзе́й).

хвілю спачынку,
Хай пан прыляжа з якую гадзінку...
(адходзіць)
Дам вам падушку...

АНДРЭЙ.

Не́ша, ня трэба...
Бог цябе́ выслаў—моў шчасьце мне́ з не́ба...
Дай руку сьціснуць з шчырай прыязьняй
(Агне́ша падаючы нясьме́ла руку, ўстае́).
Цяжка—мне́ жутка... як перад казьняй
Але даруй мне́, прабач нібы брату.

АГНЕША.

Пане, у чым жа? ня незла-ж я страту...
Прыкрасьці жаднай ад панства ня мела;
Крыкнуў калі мо', дык мусіць за дзела...
Мне сірацё тут з вёскі убогай
Чулай апекі ёсьць шмат з прасьцярогай.
Добра і міла—чаго больш жадаці,
Бог-бы пазволіў панам спагадаці,
Чымсь адслужыць вам, ад'ўдзячыць ласку;
Але-ж хто знае?..

АНДРЭЙ (паказваючы на грудзі).

Вось гэтую краску
Я не забуду. . да хвілі сканаНьня
Буду насіць пры сабе на убраньні!
Кветка напомніць цяпер не праміне
Ча та аб гэтай сьветлай гадзіне.
Сьвет мне адкрыўся... я быў зьнявісьнелы
Духам і целам упаўшы, збалелы...
А цераз што? бо ня думаўшы многа
Я неразумна жаніўся—нябога,
І загубіў... (п а ў з а)
навек разам з душою
Просьвіт жыцьця свайго раньняй вясною...
Лепшыя дні ўсе. Калі ўспамінаю,
Жыцьцё нібы цень прад вачмі прамінае
Бяз зорак, як ноч, бяз воблеску сьвету...
(прызнаючыся шчыра)
Ты-ж на хвілінку прарвала цьму гэту,
Неша... ня знаеш...
(Агнеша нахіляецца, Андрэй кажа на вуха)
Скажу табе тайна:
Я памімволі. . цябе надзвычайна
Шчыра кахаю...
(Агнеша прабуе вырваць руку і адступіцца)
над жыцьцё, над волю!
Вер мне і зжалься... ні вытрваю з болю..
Шмат ужо мук я дазнаў ад каханьня...

Глянь мне́ у сэрца для пракананьня!
(кладзе́ яе́ руку на сэрца)
Паве́р, дарагая, ў апошнія ночы,
Ад думак вялікіх ня жмацца мне́ вочы,
А дні.. дні так нудны, як мгла у бяскраю,
Жыцьцё апастыла... я зьме́ны чакаю;
Чакаю атхланьня—душы больш прастору,
Бо дыху бракуе—я згіну ня ў пору.
Бе́днае сэрпа гарыць, датлявае,
Як вугаль на зглішчы цяпло разсявае;
Полымя ве́трам мацней узнясе́цца
Ды для каго-ж?.. для каго?.. як здаецца?
Каго асьвяціць і сагрэць яно мае
У імя каханьня—няўжо не згадае
Роднае блізкае сэрца дзяўчыны,
Няўжо ты ня чуеш?.. даруй мне́ правіны!
Сьве́ту ня бачу... гублю аднавагу...
(моцна абняўшы, цалуе)
Ластаўка, Не́ша... даруй за зьнявагу...
Бог мілы сьве́дка, як шчыра люблю я.

АГВЕША (палохаючыся).

Пане, спакой дай... мо пані пачуе...
Мне́ сіраціне бяз бацькі і маткі...
(цяжка ўздыхае).
Ах, мамка, мамка... (плача)
ня шкода дзіцяткі?
Выйдзі з магілы... парадзь у нядолі.

АНДРЭЙ (пацяшаючы).

Не́шачка, сьціхні.. дай сьлёзам патолі:
Я табе́ братам служыць буду родным,
Ве́р, я ня здраджу нат словам ніводным,
Толькі між намі што было—ні слова...
Ме́й Бога ў сэрцы... Ну, будзь здарова!
(адходзіць і цалуе руку).

## ЗЬЯВА IV.

АГНЕША АДНА.

АГНЕША (канчаючы прыбіраць).

Мой моцны Божа! што сталася гэта¿
Цьмяцца мне́ вочы— ня бачуць аж сьве́та;
Няўжо гэта сон быў—чароўны і мілы?
Няўжо гэта зьява?.. чаму-ж мяне́ сілы
Цяпе́р пакідаюць у хвілю трывогі,
Калі ў забыцьці я зьвярнула з дарогі...
О Божа, ме́й жаль над убогай сіротай,
Даруй, калі вінна, што сэрца з ахвотай
Таму аддала я, каго з Божай волі
Мінае шчасьце, жыве́ хто бяз долі
І з кім не магла не дзяліцца мінутай..
О Божа, за што-ж мне́ гразіш Ты пакутай.
(падходзе к дзьвярам і апіраецца ў адмозе
і плача) (п а ў з а).
Ах, як мне́ страшна... (хапаецца за грудзі)
што са мной была?
Мамачка... родная... што-ж я зрабіла?!
(асоўваецца на зямлю)

ЗАНАВЕСА.

# АКТ III.

Той самы пакой, дзе была хворая. Параска па трохy соваецца на хаце з Андрэем пад руку з аднаго пакою ў другі, а наканец уваходзіць у пакой і садзіцца ўмарыўшыся на крэсла.

## ЗЬЯВА I.

Параска — Андрэй — Агнéша.

ПАРАСКА.

Цяпéр, калі во, дзякуй Богу,
Магу хоць хвілечку заснуць,
Калі ўжо сіл чуць набываю,
Дык сны спакою не даюць.

АНДРЭЙ.

Пакінь, пакінь... за ноч насьніцца...

ПАРАСКА.

Ах, мой Андрэй, і я сама
Ніраз прачнуўшысь разважала,
Ды сны страшныя не здарма...
Хоць мала вéру... Сны прарочаць...
Ну як ня вéрыць ім, скажы (з агнём).
Сягоньня сьніла...

## ЗЬЯВА II.

Тыя-ж і Сястра.

(уваходзіць сястра міласердзя)

АНДРЭЙ (да Парасків перасьцерагаючы).
...зволі, сьціха...
Здароўе помні сьцеражы.

ПАРАСКА.

Я помню, бачыла з паўначы
Дарогай быццам во ішла
Далёка так... пасьля здаецца
У новы дом... кругом імгла
А я адна... гляджу: Агнеша,
(Агнеша адварочаваецца і адходзіць да вакна).
Падпёршы скронь аднэй рукой,
Ішла, як цень, задумна, зважна;
І зьніклі вы... ты разам з ёй;
Я звала вас...
(Агнеша выходзе заплаканая).

## ЗЬЯВА III.

Тыя-ж без Агнешы.

ПАРАСКА (цягнучы далей).

...пасьля ня помню...
Цябе шукала доўгі час,
Плыла па моры, а што далей
Я ня ўспомню... Другі раз
Ужо паддзень, сьвітала трохі,
Быць на Купальле .. пры рацэ
Я маладзенькая і дзўкі;
Мы мелі па вянку ў руцэ·
Здаецца мы вянкі пусьцілі...
Усьлед іх сочым... ажно ты
На хібкім чоўне — душагубе
К нам пад'яжджаеш пад кусты
І мой вянок шастом вялікім
Ты затрымаў піхнуўшы ў бок
Упрост да кладкі і праз гэта
Агнешы з васількоў вянок
Аперадзіў на дзьве — тры гоні...
Мне так я помню абыйшло,
Аж я прачнулася ад болю,
Аж мне во дыхаць заняло

АНДРЭЙ.

Пакінь даваць снам многа веры,
Бо гэта-ж рэдка спраўдзіць сон.

ПАРАСКА.

Яно-то так, аж прыкра нéяк;
Чуць зьмéжу вочы, зноў тут ён.

СЯСТРА.

Ну што-ж, няма чаго смуціцца,
Страшнога тут зусім няма,..
Бо новы дом — жыцьцю адмéна...
Дасьць Бог паправішся, — а цьма,
Як мнè здаéцца, (думае як сказаць)
...зноў пустое,
Бо мусіць вéчарам было,
Вянкі... ну, што-ж?.. ляцéлі думкі,
Эт, мала сном што напляло!..

АНДРЭЙ.

Цяпéр-бы во, хаця на хвільку
Забудзь і думкі паўстрымай, —
Спакой душы дай, — слабы промень
Жыцьця свайго не загашай;
Ня муч душы, дзе дагарае
Апошняй іскрачкі сьвятло
Надзéі сьвéтлай і жаданай...
Дасьць Бог здароўе, сіл, цяпло...
(упрашаючы).
Пакінь, на што ўсё блізка к сэрцу
За праўду нéйкую прыймаць

ПАРАСКА.

Сядзéць абрыдла...

АНДРЭЙ.

...а мо' пойдзем
Узноў прайсьціся пагуляць?
(Андрэй з Параскай выйшлі).

## ЗЬЯВА IV.

Сястра адна.

СЯСТРА (глéдзючы ў сьлéд)

Аж страх глядзéць! . Мой браце мілы,
За што ты цéрпіш? гэта-ж страх!
Вось не дарма гаворка ўсюды,
Што бéднаму мілéй свой дах,
Што ён людзéй цяпéр ня знае
І уцікае ён ад іх;
Ад грамадзянскіх спраў адбіўся
Зусім асунуўся, прыціх...
А тут во ў хаце... Божа мілы!..
Варіяцкі дом, ці лазарэт
Старая, сівая—то жонка?!
Год мае столькі, як наш сьвéт;
Ды вось зайздросная, з заглядам
Не адпускае ад сябé;
(з агіднасьцьцю)
Каб хоць што людзкае, як гляну
Мянé агідна скаланé:
Сама шкілéт, уся усохшы,
Маршчакі зрэзалі ўвéсь твар,
У нéйскіх чорных плямах губы
І ня зышоў яшчэ загар...
У дадатку хворая... (разводзе рукамі).
...мнè самой во
Нé прыкра глянуць на яé;
Адна во Нéша квéтка ў хаце,
Што хараства тут дадае.

## ЗЬЯВА V.

Сястра-Агнеша.

АГНЕША (уваходзючы)

Хоць хвільку спачну тут, пані умкнула;
Няхват з ёй цярпéньня, ўсю ноч не
здрамнула

Ня ве́даю, навет, што знача спакой,
Скарэй бы паправы дачдацца якой...
(блізе́нька падходзе да сястры і ўзрушаная жаліцца)
Ці ве́даіш, панна, я хворай баюся:
Яна у вачох мне́ страшная стаіць;
Узгляд не́йкі хмарны і злосная міна,
І папіханьнем няслушна гразіць,
Аж мне́ не́як прыкра, маркотна бяз канца...
Ня це́шыць здароўе, ня радуе сонца...

СЯСТРА.

Што ты дзяўчына? скуль страхі здаюцца?
Скажаш людзём дык яны пасьмяюцца:
Яшчэ-ж не памёр а,—жыве́, хоць ляжыць,
Сорам аж слухаць... пакінь гаварыць!..

## ЗЬЯВА IV:

Тыя-ж і Старая.

АГНЕША (у гэтай часіне́ прыходзіць старая).

І праўда што сьме́шна палохацца хворай!..
Сама я ня зная!.. Ось чыстае гора!
Нідзе́ не знаходжу уцэхі сабе́,
І зданьне, як сьце́нь той, пужае мяне́.
Ці можа праз тое цярплю замароку,
Што хворую маю заусёды на воку,
Гаджу ёй старанна, прыхільна гляджу,
Пры ёй дні і ночы нязьме́нна сяджу?..
Ну, проста ня знаю...

СТАРАЯ (аўтарытэтна).

Дзіцятка маё,
Зараньне ты труціне здароўе сваё!
Зараньне праз сьпе́х недаспаныя ночы,

Гібе́е і сіла і стан твой дзявочы!..
Глядзі да чаго ты?!. (паўза) румянец
апаў...
(прыязна)

АГНЕША.

Дык што мне́ рабіці?..
(входзе, уцякаючы ад гутаркі).

СТАРАЯ (у сьле́д)

А што?.. беражыся!
Душою прыхільнай зусім не дзяліся.

АГНЕША (з дзьвярэй).

А пані, што пані? ня вораг ёй я,
Няхай Бог папраўы даѐ ёй штодня
(выходзіць).

ЗЬЯВА VII:

Тыя-ж без Агне́шы.

СТАРАЯ (да сястры).

Ды кажучы праўду...
(прыўстае і пазірае, ці ня чуе хто)
хай будзе між намі...
Яна ўжо старая, зраўняўшы з людзямі,
Як грыб учарне́ла, усохла, згніла...
Ці-ж гэткая пану патрэбна-б была?!
Заўсёды бальніца у хаце, пакута!
Не, гэта ня жонка, а толькі атрута!..
(адходзіць да вакна дэманстратыўна)

СЯСТРА.

Здае́цца ёй лепей? Дзе пан? ня ведаць...
СТАРАЯ (памалу падходзячы ад вакна да яе́,
супакоіўшыся).
Пакуль тут Сястрыца пан стаў адвыкаць
І больш трохі мае павольнага часу,
Дый так уцікаць стаў ад сьпе́ху, галасу...
Сястрыца вось рукі яму падмяніла,
А пе́рш неадлучна яго це́нь хадзіла.

СЯСТРА (бядуючы).

Звыкся, што-ж зробіш...

СТАРАЯ (перабіваючы).

Сядзіць каля пані
Гэтак дзе-дня, бач, як сонца устане,
Нешу падмéніць, тая йдзé спаць,
Ен каля хворай... то сядзе чытаць,
То так з ёй гавора спагадна, зычліва,
То цешыць надзéяй, што будзе шчасьліва,
Пяройдзе хвароба, набудзе больш сіл
І сьвéт, як ранéй быў, зноў стане ёй міл.
Я мыю бялізну ім блізка ўжо з год...
Нішто сабé людзі. Пан мéў, бач, лаход,
Яна зноў ашчадна жыла у дастатку.
Ня буду, што знаю, казаць ад пачатку,
Бо зойме шмат часу... а мушу сказаць,
Што так з сабой жылі, як лепш не жадаць;
Хоць праўда ня пара, за то гаспадыня!
Нішто каля вока яé не праміне.
Чысьцёха як рэдка, а звара з яды...
Няма дабраць слоў ёй, так смачна... ўсягды
І сытна і цёпла... як сьнéг той пасьцéлька
У будні ні то што, а прыдзе нядзéлька
Ці сьвята вялікае, у хаце ўжо рай,
На сэрцы заўсёды праўдзівы быў май.
Апошнія часы штось нéяк ня тое...

(у раздуме)

То спрэчкі, то дуцькі—адно і другое
Надзьмуцца дзён колькі абодва маўчаць,
Цяпéр, бач, паўгова дрэнна чуваць...

СЯСТРА (выпытаваючы).

А што-ж за прычына? Мо' хвора — дык
[злая?

СТАРАЯ.

Бяз вéдай прычыны, во так выдумляе.
Нéк мéнш стала ладу, насуплены твар;
Захмурыцца пані, злуé гаспадар,

І гэтак нярокам падглéдзіш часьцютка,
Аж нéяк і прыкра, ды ўжо нічагутка
Звыкліся трохі ў апошнія часы...
(на вуха)
Ен, праўда, к дзяўчатам быў троха за ласы,
Вядома, як фэльчар, — бывае усюды
Дый леча удала, ну, прост робе цуды;
Ня дзіва, што пана любяць і знаюць:
Чуць хто занядужаў, зараз пасылаюць..
Дзяўчаты йшлі роем, як быў кавалéр...
Лéпш за другога ён шмат і цяпéр,
Вось толькі нядоля — няроўня спаткала,
Прыгода апутала і жыцьцё зьвязала.
Узяў сабé матку — дзяўчат, як ня відзеў,
Мабыць на раду яго Бог Сам пакрыўдзіў:
Цéрпіць крыж панскі, бязвольны, гаротны
З душой поўнай мараў, але самотны.

## ЗЬЯВА VIII.

Тыя-ж і Агнéша (уваходзіць).

СЯСТРА.

Вось я ўжо нéкалькі часу пры хворай
І бачу, як пан к ёй увéтлы, з пакорай...
Ну, а ці брат мой ня жаліўся доляй,
Ці зьнедаволеньня ня чулі ніколі?

СТАРАЯ.

Здаéцца зайздросна пабачыўшы з боку,—
А добра прыглéдзься—сьляза зьзяе ў воку,
А глянь-жа у сэрца — што дзéецца там?!
О, калі б шчыра прызнаўся ён сам,
Калі-б ужо скаргу душы набалéлай
Адвагу мéў выказаць голасна, сьмéла,
То ты-бы, дзіцятка, дай вéры старой,
Згадзілася многа у чым-бы са мной.
Крый Божа дазнаць табé тыя пікары,
(Сястра неспакойна ўздрыгавае).

Што зносіць ён скрытна, як крыж той
[за кары!
Для вока людзкога крыёма цярпіць...
СЯСТРА (шкадуючы).
Ну што-ж цяпер можна з судзьбінай
[рабіць?
Мусіць Бог хоча, на то Яго воля!..
СТАРАЯ
Не, гэта, дзеткі, дурнасьць ды сваволя
(Агнеша выходзіць а за ёю ідзе Сястра мі-
ласэрдзя).

## ЗЬЯВА IX.

Старая — Сястра.

СТАРАЯ (да Сястры).

Як штось прадчувае, ёй страшна, ёй
[сьніцца,
Чуць пан адхінецца — яна ўжо баіцца...
(паказваючы у сьлед Агнешы).
А пан дык прынамсі у першай вясьне...
Яна ж яму матка... праўда ці не?...
САСТРА (затрымліваючыся каля дзьвярэй).
Ты праўда сама я ў душы разважала,
Як такі гэткае дзіва з ім стала?!
Панадна прыгожы, хто-б словы дабраў,
І трэба ж жаніўся—Бог розум адняў!..
(Уваходзіць Параска адна; пры ўваходзе Параскі
Старая выходзіць; праз колькі часін уваходзіць
Андрэй).

## ЗЬЯВА X.

Сястра - Параска - Андрэй.

ПАРАСКА.

Вось вéяк лепей, мацнéй сябé чую;
Цяпéр і пасьнéдаць крыху папрабую...

(Агнéша прыносіць шклянку кавы).

Нѐк слаба... баюся . (садзіцца)
яшчэ мо' зарана..
Міхціцца у вочах, як нібы то п'яна...

СЯСТРА (да Параскі).

І так дзякуй Богу, хто-б мог спадзявацца...
Усім вам прышлося гора набрацца.

(Агнéша выходзіць; Сястра застаéцца, Параска садзіцца піць каву, а Сястра прымошчваецца збоку і з добрым гумарам, шчыра пачынае гаварыць).

Ну, але ў вас за тое дзяўчына!
Налюбавацца не магу:
Прыстойна, спрытная, панадна
І не падобна на слугу.

СЯСТРА.

Глядзéць нат міла, калі стане
Пакой правéтрываць ранком:
Так спрытна, хораша, ну проста...
Я колькі раз ужо крадком
Сачу, дзіўлюся скуль ахвота,
Рупліва́сьць, толк...

ПАРАСКА (з гнéвам).

Ну, а каму-ж,
Калі ня ёй, даглéдзіць ў хаце;
Няўжо-ж павінен брацца муж?!

(супакояваючыся).

Яна спагадная дзяўчына
Ды што казаць... мой чуе дух,
Бо абы што... ня так... дык зараз...
Я перш сама любіла рух,
І не цярплю, калі нячыста...

СЯСТРА.

Відаць, што школа ёй была.
І ад сябе́ яшчэ, з прыязьні
У знак падзякі, дадала.

ПАРАСКА.

А Бог і з ёй... з яе́ падзякай...
Мне́ нельга, праўда, наракаць,
Але раз не́калькі прышлося
Мне́ зьненароку прыкмячаць,
Што штосьці ёсьць, бо пе́рш бывала
Увойдзе з пасьмехам ка мне́
І ў прывітаньні гляне ў вочы,
Лагодна, прыязна ўмызьне—
Цяпе́р увойдзе — прывітае
Ня ме́ньш прыязна, як ране́й,
Ды не́к ужо хавае вочы
І твар яе́ не́к стаў бляндзе̂й.
Я тут прыкутая у ложку,
А там... (адвалілася ў адмозе на падушку).

АНДРЭЙ (зрываючыся з ме́йсца).

...Ды што ты, перастань!
Сябе́ здагадкамі больш мучыш;
Ты й так нядужая... (папраўляе падушку).
...як здань!..

ПАРАСКА.

Табе́ я ве́ру, мой Андрэйка;
Ты не зьмяніў мне́ ні у чым,
Хоць пры кананьні так скажу я,
Ня то табе́—але усім.

АНДРЭЙ (падходзе бліжэй і навісае над крэслам яе́).

Ну годзе ўжо—хто можа ве́даць,
Хто з краю ў Бога—я ці ты;

Няварта думкамі труціцца,
І думкам дай пакой сьвяты.

ПАРАСКА.

Паслухаю цябе́, мой мілы...
І праўда ўгалываць ня сьле́д;
Што Бог назначыў, то і стане!...
Пэўне́й шмат будзе ад прыкме́т ..

(тулячы Андрэя, прыпадняўшыся).

Цябе́ за раду абніму я
І к сэрцу хвораму свайму
Прыцісну шчыраю душою...

(зглéдзіўшы ў яго васілёк, зьдзіўлена).

Андрэйка мілы, (паказвае на кве́тку) ось [чаму
Во гэту кве́тку начапіў ты,
Той васілёк, што часта мне́
То у вянку, то на магілках
Мігае часта так ўва сьне́?..

(парываецца вырваць, але Андрэй адхінуўся ў бок).

Адкінь, нашто яна, ня трэба!..
Адкуль ты ўзяў, мне́ страх бярэць...
Прашу адкінь... я — госьць і скора
Жалобу прыдзецца надзе́ць.

(цяжка асунулася на пасьце́ль).

АНДРЭЙ (схаваўшы кве́тку ў жме́ню).

Ну, добра! я цябе́ паслухаў,
(падае́ лякарства, бачачы, што пара).
Ну, супакойся ты, засьні...
Цябе́ во пале... (кліча).
Гэня. Не́ша! (Агне́ша прыбягае).

## ЗЬЯВА XI.

Тыя-ж і Агнёша.

АНДРЭЙ (падаючы ў рукі сухі кампрэс).

Вазьмі во, ластаўка, зьмяні...

(Агнёша бярэ і ў мамэнт адходзе).

## ЗЬЯВА XII.

Тыя-ж без Агнёшы).

ПАРАСКА.

Што гэта знача? мой Ты, Божа!
Няўжо здалося мнё такі?

АНДРЭЙ (не здагадаўшыся).

А што?

ПАРАСКА (удражнена).

Ды глянь як ёсьць усюды
Блішчаць нязносна васількі

(Агнёша прыходзіць і зьмяняе кампрэс).

## ЗЬЯВА XIII.

Тыя-ж і Агнёша.

ПАРАСКА (да Андрэя).

Глядзі!.... (паказавае) і тут...

(зрывае з грудзёй Агнёшы з злосьцю).

...што гэта значыць?
Адкуль іх ліха нанясло?..

(Агнёша падняла і выходзячы цалуе кветку).

## ЗЬЯВА XIV.

Тыя-ж без Агнєшы.

ПАРАСКА (далєй).

Я не хачу, я іх баюся...
Прашу, каб больш іх ня было...
Каторы раз я прыкмячала,
Вось не здарма мнє сьняцца сны:
Пєрш ты, пасьля яна надзєла,
А сяньні разам Нєшка й ты.
Што з вамі стала я ня знаю;
Андрэй—больш Нєшкі ня клічы,
Я не хачу яє: будзь ласкаў
Цяпєр... (сярдзіта).
Сягоньня разьлічы.

АНДРЭЙ.

За што? Параска, Бог з табою!
За што? чым вінна? не гані!
Яна-ж ты бачыш, нам спрыяе
І неадлучна ночы й дні
Сядзіць што дзєнь тут пры пасьцєлі,
Цябє шкадуе і ня раз
Крыёма плача.. будзь здарова
(адходзячы)
Спакойнай ночы!..

ПАРАСКА.

У добры час!..
Але прашу, каб Нєшкі сяньня
На'т сьлєду ня было і званьня!

З А В Е С А.



## АКТ ЧАЦЬВЕРТЫ.

Вясковая ўбогая хата. Агнеша сядзіць на ложку і ўскалыхавае дзіця, прыпяваючы.

### ЗЬЯВА I.

Агнеша — адна.

АГНЕША.

Баю, баю, мая дзетка..
Баю, баю, міла кветка!..
Вечар цяпленькі
Стане цямненькі...
Сьпі, мая дачушка!
Яблынкі ўжо ў кветках,
Расіца дрыжыць на ветках,
Як сьляза матулі:
Скарг яе ня чулі:
Людзі ачарствелі.
Цяжка жыць на сьвеце стала:
Стыду, крыўды, мук ня мала
І цябе ждуць зьдзекі,
Бяз віны папрэкі.
Шмат бяды дазнаеш..
Даруй матцы... я бяз долі
(плача)
Праліла ужо сьлёз даволі,
І ты, дзяціна,
Уцеха адзіна,
Даруй мне, дачушка!
(уваходзіць Бабуля, Агнеша выходзіць).

## ЗЬЯВА II.

Бабуля — адна.

БАБУЛЯ (калыша)

Люлі, люлі, дзе́танька,
Люлі, люлі, мілая,
Каток на паркане (глядзіць у вакно)
Лізаць лапку стане,
Госьць да нас прыбудзе,
Зіна спацькі будзе.

(уваходзіць Андрэй).

## ЗЬЯВА III.

Бабуля — Андрэй.

АНДРЭЙ.

Дзе́нь добры ў хату...
(падходзіць, вітае Бабулю і цалуе дзіця).
Як мы жывы?
Ці ўсе́ здаровы і шчасьлівы?!

(у хату варочаецца Агне́ша)

## ЗЬЯВА IV.

Тыя-ж і Агне́ша.

АНДРЭИ (зварочаваецца да Агне́шы).

Самой здароўя як і дзе́ткі,
Маей міле́нькай ў сьве́це кве́ткі?

АГНЕША (апусьціўшы смутна галаву).

Дзе́нь добры пане!..

АНДРЭЙ (з гнéвам)

Годзе Нèша!..

АГНЕША

Аднэй так смутна на душы
Сядзёць у нуднай, у каморцы
Сярод няшчасьця і глушы.
Ах, цяжка жыць... ужо заснула. .
(паказавае на калыску і хрысьціць).
Сьпі, Бог з табой, дзіця мае!
Глядзі, як ручачкі зложыла,
А твар і міна ўсё тваё.

(схамянуўшыся).

Вось да цябé зусім падобна...

(жаласьліва)

Адно пануе нéйкі страх,
Ці дасьць Бог долю лéпш ад маткі,
Ці пойдзе плакаць па людзях?
Ці Бог пашлé апéку... шчасьце.
Ці так, як я, пачнé служыць
І быць пад'ўласнай дужай волі,
І вéк ліць сьлёзы і тужыць?...

(голас мяняецца)

Хай Бог бароне, лéпш малая
Няхай пакіне гэты сьвéт,
Чым быць няшчаснай і гаротнай
У росквіту дзявоцкіх лéт,
Як я нябога, сіраціна... (плача).

АНДРЭЙ.

Пакінь, пакінь, ня плач, прашу,
Сам Бог мой сьвéдка, не пакіну
Цябé,—дабрэйшую душу...
Уціхні, зорка, годзе клясьці
І наракаць на шлях жыцьця;
Я вéк з табой душою буду
І не пакіну вéк дзіця.
А вéдаеш, учора з жонкай

Я мéў размову на‘т аб ім:
Пéрш упіралася старая
І не згаджалася зусім,
Цяпéр прыéхаў я...
(неадважаваючыся)
Ці сьмéю
Прасіць, каб ты дала саглас?...
(нясьмéла)
Табé-б лягчэй было, каб Зіну
Пазволіла узяць да нас.

АГНЕША.

Што, што?! О, не, ніколі!
Аддаць дзіця, аддаць усё?...

БАБУЛЯ.

Ці пану мала Нéшы мукі?...
Здаéцца-ж струў яé жыцьцё!...
(выразьліва і памалу гаворачы кожнае слова).
Забраў ўсё лéпшае дзявоча:
Душу, пачуцьце, сэрца й страх,
Цяпéр пан хочаш, каб унучка
Пакінула убогі дах.
А што-ж у вас? Яно малое.
Яму каб сытна і цяпло...
Ня трэба ёй калыскі штучнай,
Што празрачыстая, як шкло;
Ня трэба ёй бялізны панскай,
Падушак, ясікаў кругом:
Пад бокам маткі лéпш ёй будзе!
На што ёй зрадны панскі дом?
Ціжарам ня бы а ніколі...

АНДРЭЙ (трапячыся).

А дзеля дочкі...
(папраўляецца).
...дзеля вас...

БАБУЛЯ.

А нам дзіця не замінае,
Уцéхай нат яшчэ для нас.

АГНЕША (супыняючы)
Пакіньце мамка...

БАБУЛЯ.

...сэрца з жалю
Баліць, і вось куды вяду:
(зварочаваецца да Агнешы)
Хай Бог скараў тваёй нядоляй,
Адну адплакалі бяду,
А сяньні зноў.. не, не, ня можна.

АГНЕША (супакойваючы).
Ніхто дзіця ня вырве з рук,
Ні для таго дазнала гора
І толькі крыўды, зьдзеку й мук...
Дзіця мілей за ўсё на сьвеце!...
Аддаць дзіця?... разстацца з ім?...
Каму? за што?.. ці ж гэта можна
Астацца мне аднэй зусім?...
Я не сьцярплю цяжкой самоты.

АНДРЭЙ.

Даруй мне, Неша, знаю сам,
Што з родным дзіцем разставацца
Абоім сяньні цяжка нам...
Але, пралеска, (цалуе руку Агнешы) маю
просьбу,
Схаці мяне ты зразумець:
Дачушцы нашай я хацеў бы,
Каб больш выгоды магла мець.
Тут цесна, (аглядаючыся)
сыра, затха ў хаце...
Шкада малой, а у мяне
Чысьцютка, вольна сьветла, сьвежа
І муха крыльлечкам ня ткне.

БАБУЛЯ.

Няхай сабе! мы ўжо прывыклі,
Узгадавалі я ў бядзе·
І наша кветка будзе з намі
Пакуль куды Бог прывядзе.

Ніхто ня знаў з нас тых палацаў,
Крый Бог іх знаць: там грэх і зьдзек.

АГНЕША.

Ну годзе, мамка, успамінаці
Рад-чуць забыўся чалавек,
Чуць памяць звольніла сумленьне,
Чуць век з душы ўжо адлягло,
А мамка зноў успамінае,
Калі што смутнае было!..
Ах, Божа мілы... сіл ня маю...
Даруй правіны мае, дзіця!
За хвілю шчасьця толькі мукі
І шлях гаротнага жыцьця!
(плача).

АНДРЭЙ (супакойваючы).

Забудзьма гнеў... (зварочваецца да Бабулі).
...нашто спрачацца...
Я вечна зьвязаны (да Агнешы) з табой,
Я не пакіну, дай Бог шчасьця,
Сабе як зычу — так малой!
Ды ўрэшце так: згадзіся, Неша,
Я зычу добрае адно:
Дачушку мне аддаць, ці помніш?
Так ухвалілі мы даўно...
Табе... табе па угавору
Клянуся век дапамагаць;
Ты адпачнеш, падкрэпіш сілы,
Магчымся будзеш працаваць;
(Бабуля адыйшла на бок, Андрэй спагадна шэпча).
А ясны дзень, прыгожы вечар,
Прытульны змрок і вольны час
І моладасьці шчыры мары,
Усё, што лепшае, для нас.

АГНЕША (згаджаючыся).

Андрэйка мілы, я гатова,
Хоць буду плакаць, шкадаваць...

А ці згаджаецца старая
Дзіцяцю шчыра даглядаць?
А ці пытаўся — ці пазволе
Мнѐ роднай маціцы, ў воль ы дзѐнь
Прыйсьці давѐдацц ? а можа,
А мо' старой ня міл мой цѐнь?

АНДРЭЙ.

Не, не, ўжо ціха, вѐр на слова,
Між намі згода: я прасіў
І мнѐ яна дакляравала...

АГНЕША.

Ну, аба мнѐ-ж ты гаварыў?

АНДРЭИ.

Яна і плакала, злавала,
Ну але справа ні у тым.
Я слухаў доўга і цярпліва,
Упрост сказаць, я стаў глухім..
Чаго, чаго не выдумляла...
Баяўся ўкрыўдзіць праз адказ,
Усё нішто—але вось хоча,
Каб разлучыць абодвух нас
І дакляруе, што ніколі
Ніўчым пярэчыць не сягнѐ,
Каб толькі я з табой разстаўся,
Ці ты каб кінула мянѐ.

АГНЕША

Андрэй, Андрэй, твая ўжо воля,
Рабі як знаеш, Бог з табой...
Адно цябѐ прашу.. дзіцяці
Не забывайся ты са мной;
Яно нявіннае, ня знае

(Андрэй апусьціўшы галаву)

Прашкод жыцьця і сьвѐцкіх праў;

(са сьлязьмі)

Прашу, ня кінь яго няшчасным,

(у адмозе)

Каб аб дзіцяці памятаў.

АНДРЭИ.

Агнéша мілая...

БАБУЛЬКА (заступаючыся за Агнéшу).

Нихай вас!..

Спакою бéднай не дадуць...
Калі нязмога бараніці,
Дык і змарцьвéньнем пан, ня будзь

(уваходзіць дзéд)

(Андрэй з Агнéшай адходзяць на бок, паціху радзяцца).

## ЗЬЯВА V.

Тыя-ж і Дзéд.

БАБУЛЯ (да Дзéда)

Ото наслаў Бог толькі гора
Сягоньня; чуеш што пяé:
Пpыстаў аддаць яму унучку,
А нам, шкада ужо яé.
Мы ўжо нéк звыкліся з малою;
Дзіця спакойнае яна
Больш сьпіць, ня чутна яé плачу
І з ёй віджуся я адна.

ДЗЕД.

Ну добра ты, папéсьціш, праўда,
І закалышаш на руках,
Ды вось карміць... Агнéша хвора,
Няма нічога у грудзях...

БАБУЛЯ.

Во-тож і ёсьць, казаць папраўдзе,
Малая дзеўчына для нас
Ціжарам ня была ніколі,
А нат уцéхаю для нас!..
Шкада аддаць...

ДЗЕД

А зноў паглядзіш,
Што Нéша чэзьне і яé,
За ўвéсь апошні час мучэньняў

Ужо й паловы не стае́,
Дык не́як жаль.. Марне́е дзе́ўка
І прападае ні за што.
Па мне́—(з развагай) бярэ дзіця... і добра
І Бог і з ёй... няхай.

БАБУЛЯ.

Ото!
Ня знаеш мук, цярпе́ньняў маткі,
Начэй бязсонных, сілы страт...
А матцы дарага дзіцятка;
Яно ёй міла... (паўза)
Пан багат,
Ен хоча даць дачцэ выгоду:
Яе́ ў істужачкі спаўе́;
Дык хай-жа знае — ў лоньні маткі
Цяпле́й, выгодней чымся дзе!

Д З Е Д.

Гатоў зусім з табой згадзіцца,
Ніўчым я спрэчкі не вяду,
Але здае́цца...

БАБУЛЯ.

Казаць хочаш,
Што будзе ме́ць адну бяду?..
Ніколі-б я не дапусьціла,
Каб дзіцянё хто адабраў,
Ну але Не́шкі бе́днай шкода,
А то няхай-бы спрабаваў

(бабуля адыйшлася).

АНДРЭЙ (да Агне́шы).

Прашу цябе́... дзеля дзіцяці...
Яго малое—так люблю!
Сабе́-ж тым крыўды ані якай,
Здае́цца мне́, я не раблю!..

АГНЕША (кладучы рукі на плечы Андрэя)
Ах цяжка мне, шкада дзіцяці,
Хоць праўда лепей будзе ў вас...
Мяне пужае, што ў самоце
Плысьці, як вечнасьць, будзе час...
Мне беднай будзе сумна, нудна...
Адна... хто-ж думкі разарве,
А іх так многа, каб ты ведаў,
У неспакойнай галаве.

АНДРЭЙ.

Ты будзеш жыць... найму кватэру;
На пражыцьцё ты будзеш мець,
А вольнай хвіляю часьценька
Прыду з табою пасядзець.

АГНЕША.

Ну хіба так...

АНДРЭЙ.

Ось дзякуй Богу!
(сарваўшыся ад радасьці).
Агнеша, мілая мая,
Дык ты ўжо згодна, ты пазволіш?
Ах вельмі-ж ўдзячны табе я
(цалуе рукі і скронь).

ДЗЕД (да Бабы)

Ну, во! спрачалася старая
І надарма... ты чуеш... не?

АНДРЭЙ.

І помні, зорка, дарагая,
Калі зусім спрыяеш мне,
То не забудзься аб дзіцяці,
Прыходзь давядацца і знай,
Ніхто ня скрыўдзе, не зачэпе
Цябе на т словам...

АГНЕША.

Слова дай?! ..

АНДРЭЙ.

Як я цябе люблю, шкадую..
Параска вось па праўдзе ўжо
Усьціхамірылась, спакойна
І згодна нек жывём даўно..
Яна казала узяць дочку;
Дзе будзе гінуць па кутох?..
І ўжо нічым не папікае.
У хаце нашай зноў ёсьць Бог.
Хоць, праўда, крывіцца; ня хоча,
Каб ты давéдацца прышла,
Але ўпрасіў яè—то-ж матка!
Нарэшце й тут згоду дала

(Бабуля з Дзéдам радзяцца і ня думаюць ужо перашкаджаць).

БАБУЛЯ.

Дык як ты Нéша—сваю Зінку...
Пазволіш... хочаш... аддасі?
Запраўды крыху адпачынеш,
У пару пасьпіш і паясі

(Агнéша падходзе да дзіцяці, каб узяць на рукі Дзéд ідзé сьлéдам).

Д З Е Д.

І я прывык ужо да ўнучкі:
Яна сьмяéцца і гудзіць.
Аж нéяк весялéй у хаце,
Ну, а як трэба—што зрабіць?!.
Я ўжо казаў—мнé вельмі шкода...
Дзіця замучае цябе,
А так хоць... (цалуе дзіця і да дзіцяці кажа) будзь-жа ты шчасьліва!
Хай Бог здароўя дасьць табé!

АГНЕША (тулячы дзіця пяé)

(Бабуля плача, дзéд задуманы стаіць апусьціўшы галаву).

Хмара сонца блéск скрывае,
Апошні промень пагасае,
Прымрак гусьцéе,
Сэрца-ж мнé млéе.
Зінaчка, дачушка!
Я ня знаю чаго плачу,
Зорку ясную я трачу,
Квéтачку ружынку *),
Мілую дзяўчынку,
Сірату бяз маткі...
Заўтра зраньня дзéнь настане,
Сонца йзноў праз хмары гляне,
Пашлé касулькі,
Але матулькі
Зінaчцы ня будзе

(узьдзяé хусту, што падаé Андрэй і, узяўшы дзіцё на рукі, выходзіць з хаты пяючы).

У пакоях сьвéтлых ясных
Чуць ня будзеш сьлёз няшчасных,
Дзéтка малая,
Доля-ж такая...
Няма тваé маткі...

ЗАВЕСА.

---

*) Палёнізм, пабеларуску—рожаньку.

## АКТ ПЯТЫ.

Ганак; дзьвѐры рашчынены. Ясна відаць катафалк. Параска плача каля дамаўя. Чарада зьбіраецца што раз усё бальй.

### ЗЬЯВА I.

Андрэй—адзін.

АНДРЭЙ.

Божа, Божа! як мнѐ смутна,
У вачох цямнѐе!
Чаму людзі маюць шчасьце,
А мнѐ Бог жалѐе?
Людзі маюць шмат уцѐхі,
Жывуць шчасна, міла...
Няўжо мнѐ тэй сьвѐтлай долі
У Бога нехапіла.
Людзі скарбамі багаты,
Цѐшацца сям'ёю,
А мянѐ, з адзіным скарбам,
Разлучыў з дачкою!
І за што, скажы... (з жалем) мой Божа,
Ты ка мнѐ так срогі,
Маладога мянѐ крыўдна
Зьвёў з шляху—дарогі?
(з гнѐвам)
Сьвѐтлых дзён мнѐ даў так мала,
Ды і тых шкадуеш,
Ня ўжо просьб і нараканьняў
Ты маіх ня чуеш?

Божа, Божа, вельмі цяжка
Страціць скарб адзіны.
І за што і за якія
Судзіш мнѐ правіны
(уваходзе Параска; яе вядзѐ хтось з чарады пад руку).

## ЗЬЯВА II.

Андрэй—Параска—чарада людзей.

ПАРАСКА.

Не магу, мнѐ трудна, чую,
Млѐюць рукі й ногі...
Толькі зьнѐсла я мучэньня,
Смутку і трывогі!..
А цяпѐр—яшчэ во страта:
Зіначка!! дзіцятка!!
Я табѐ была і нянька
І родная матка;
Яж цябѐ узгадавала,
Цѐшылась пясьціла
І, ня мѐўшы сваіх дзѐтак,
Я цябѐ любіла.
Я адна... цяпѐр адна я...
Жыцьцё зноў разьбіта...
Сьвѐтлы промень згас навѐкі...
Густой мглой спавіта
Уся прышласьць... што пачну я?!
(стала на калѐні плача і рукі працягавае).

НЕХТА. З чарады (прытрымлюючы Параску).
Панечка! паволі!
Годзе плакаць!... нельга плакаць
Па дзецях ніколі ..

БАБА 1-ая (перагаворуючыся з іншай).
Ці ня дочка гэта будзе?
Ня было-ж здаѐцца?

Ці з радні хто?—гэтак моцна...
Бедная аж рвецца.

(катафалк гатоў, дамаўё пастаўлена і вілаць праз адчыненыя дзьверы).

ПАРАСКА (падбягаючы ў бок труны).

Кветка мілая, анёлак!
Даруй зьневажэньні,
Выпрасі мне перад Богам
За ўсё прабачэньне.
Буду век маліцца Богу,
Покі буду жыва.
Каб Ен даў табе рай вечны!..
Ох... я нешчасьліва (падае ўжаліўшыся)

(у адчыненыя дзьверы ўваходзіць народ, хрысьцячыся).

НЕХТА (Андрэй прайшоў).

Гэта бацька... пра сьмерць дочкі
Мо й ня знае матка?..

БАБА 2-ая (надступаючы).

Не, я чула... Мой ты Вечны!
Беднае дзіцятка...

БАБА 1-ая.

Ей яшчэ не наказалі?

БАБА 2-я (на вуха)

Па запрэту *) пані...
Муж зьлюбіўся з тэй дзяўчынай,
Што служыла раней...
Можа бачыла і помніш?
Дзяўчына, як кветка!...

БАБА 1-ая.

А хто-ж гэтая старая,
Нізкая кабетка?
Гэта жонка таго пана?

*) Русіцызм—забарон, забарона.

БАБА 2-ая.

Гэтая сівая?
Так, во то-ж яна і будзе:
Мсьцівая і злая.

БАБА 1-ая.

А я думала што маці...

БАБА 3-я (падслухаўшы).

Што-ж бывае... дзіва?!.
Во і сам ён маладзéнькі...
На руцэ нашыва

(Андрэй ідзé, хлопчык пасыпае дарожку васількамі; Андрэй у хлопчыка ўзяў кветку і прышпіліў сабé, а другую нясé ў руках).

Во ідзé ён... стараніся...

БАБА 1-я.

Ці-ж маці ня знае?

БАБА 3-я (зглéдзіўшы Агнéшу).

Вунь (паказавае)... глядзі вунь, у касынцы
(усé паварочуюцца).
Ідзé... лéдзь жывая...
Блéдная якая стала,
Бéдная дзяўчына

(Агнéша сунецца, як цéнь. Андрэй сустракае).

## ЗЬЯВА III.

Тыя-ж і Агнéша.

БАБА 3-я.

Ля яé... во пан падходзіць (уздыхаючы)...
Цяжкая часіна...

(Андрэй прышпіляе Агнéшы кветку. Параска, убачыўшы кветкі ў абоіх, ня зразу наважае, як ёй паступіць, і траціць самаўладу, калі спатыкае мужа з Агнéшай)

ПАРАСКА (прыпёршыся ў страху да сьцéнкі).

Вось і яна... яна падходзе...
Не, ня пушчу яé у дом!
Няхай сабé яна як знае...
Распраўлюся сваім судом!...

(уваходзіць сьвяшчэньнік, Параска, падумаўшы)

Ну Бог і з ёю—ня чужая,
А матка Зінкі... (з гневам)
.... усё адно.
Цяпёр настаў мнé час памсьціцца,
Ужо зьбіралася даўно.
(адумаваецца)
Хоць, праўда, грэх... няхай прыходзіць,
У бéднай гора...

(убачыўшы, што ў руках Агнéшы вянок з васількамі і што ў Андрэя і Агнéшы прышпілены васількі).

.... што са мной?...
Мнé цьмяцца вочы... я трасуся,
А васількоў нясьметны рой....
Іх многа скрозь, трывожаць душу,
Як нéкалі паганы сон...
А гэта-ж во, бач, прышпілілі
Па васільку яна і ён?!..
(п а ў з а)
Дык жа-ж цяпéр няхай пазнае!..
Жыцьця ня будзе мнé ўжо з ім...
Яно разьбіта... Не дарую...
Ня мéйспа тут ім абаім!...

(Андрэй астаéцца побач крыху ззаду, а Агнéша ідзé наперад і толькі мéла перахрысьціцца, як Параска, выціраючы хустай заплаканыя вочы, бяжыць і спатыкаецца з Агнéшай і Андрэем).

Ты чаго? Табé што трэба?
Вон адсюль ідзéце!...

АГНЕША (з плачам).

Я, к дзіцяці йду... мнé можна...
К Зіначцы пусьцéце...
Я матка родная, дазвольце
З ёй пажагнацца наўсягды

(Параска засланяе дарогу, у гэты час выносяць дамаўё і пяюць „Вéчную памяць"; Параска пірхае ў грудзі Агнéшу, тая, як падкошаная, валіцца на рукі Андрэя).

АНДРЭЙ.

Параска, што ты, Бог з табою!

ПАРАСКА.

Вон, вон абое, хоць куды!

ЗАВЕСА.

